Гродна
№ 12 (423),
12 ліпеня 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПАКЛІКАННІ ГРОДЗЕНСКАЙ ЗЯМЛІ



Мінск, катэдра 27.06.2015

## Новы біскуп са Смаргоні

**27 чэрвеня ў архікатэдральным касцёле ў Мінску адбылося біскупскае пасвячэнне кс. Аляксандра Яшэўскага SDB, якога папа Францішак прызначыў дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Пантыфік надаў новаму біскупу тытулярную біскупскую кафедру “Furnos maior” і скіраваў на служэнне ў Магілёўскую частку архідыяцэзіі.**

● праця на с. 3



Гродна, катэдра 27.06.2015

## Тры новыя святары

**27 чэрвеня ў гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзяліў святарскае пасвячэнне трох навучэнцам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.**

**Новымі святарамі Гродзенскай дыяцэзіі сталі: кс. Дзмітрый Папянюк з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзярэчыне, кс. Юрый Садоўскі з парафіі Адшукання Святога Крыжа ў Астраўцы і кс. Віталій Пяткевіч з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах.**

● праця на с. 3

### Каляндар падзей

***13 ліпеня***
*гадавіна каранацыі абраза МБ у Гудагаі.*

***18 ліпеня***
*адзначэнне гадавіны мучаніцкай смерці бл. Мар’яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і ваколіц.*

***23 ліпеня***
*свята св. Брыгіты Шведскай, апякункі Еўропы.*

***25 ліпеня***
*свята св. Якуба.*

***26 ліпеня***
*асвячэнне транспартных сродкаў у сувязі з успамінам св. Хрыстафора, апекуна вадзіцеляў.*

### Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***“Голас Евангелля”***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***“Сімвал веры”***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2”*
***20 ліпеня***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці возьмеце Вы ў гэтым годзе ўдзел у пешых пілігрымках?***

- *так, як і штогод*
- *так, упершыню*
- *пайду ў некалькі пілігрымак*
- *не, баюся цяжкасцей*
- *не, у мяне не хапае часу*

выкажыся

**“Не вы Мяне выбралі, але Я вас выбраў...” (Ян 15, 16)**




### XV НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Мк 6, 7–13**

Езус паклікаў Дванаццаць і пачаў высылаць іх па двое, і даў ім уладу над нячыстымі духамі. І наказаў ім не браць у дарогу нічога, апрача толькі кія: ні хлеба, ні торбы, ні медзі ў поясе, але абувацца ў сандалі і не апранаць дзвюх вопратак.

І сказаў ім: "Калі дзе ўвойдзеце ў дом, заставайцеся там, пакуль не выйдзеце адтуль. І калі ў якім месцы не прымуць вас і не будуць слухаць вас, то, выходзячы адтуль, абтрасіце пыл, што пад нагамі вашымі, дзеля сведчання супраць іх".

І, пайшоўшы, яны прапаведавалі пакаянне, і выганялі шмат дэманаў, і шмат хворых намашчвалі алеем, і вылечвалі.

## ДАСТАТКОВА ТОЛЬКІ БОГА!

У мінулым адкрывальнікі новых краін вырушалі ў падарожжы з адпаведнай экіпіроўкай. Так было неабходна, калі экспедыцыя павінна была прынесці плануемы поспех: трэба было паклапаціцца аб запасах, зброі, транспартных сродках, інструментах і ўсім, што было патрэбна. Апосталы таксама здабывалі свет для Езуса. Але зусім інакш. Не яны былі найважнейшымі, бо свет ужо быў заваяваны Хрыстом. Гэта моц Хрыста дзейнічала праз іх. Адсюль перасцярога: не бярыце з сабой лішняга багажу, не разлічвайце на сябе і на асабістае забеспячэнне, каб не забыліся, што гэта Я з'яўляюся вашай моцай і гарантыяй поспеху місіі, на якую вас пасылаю. Гэты фрагмент Евангелля таксама гаворыць пра слухачоў і іх адказнасць за Добрую Навіну: Езус не дапускае абыякавасці. Асоба Хрыста і Яго справа збаўлення павінны прынесці плады навяртання! Гледзячы на крыж, на якім за нас памёр Божы Сын, не можна сказаць, што нічога не здарылася. Не можна абыякава прайсці міма пустой магілы Збаўцы!

У выніку: хто прымае Евангелле за сваё асабістае правіла жыцця, мае ў распараджэнні ўладу над нячыстымі духамі. Падобна, як некалі Апосталы, ён можа ліквідаваць зло і яго вынікі. І будзе лячыць усе людскія слабасці.

### XVI НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Мк 6, 30–34**

Сабраліся Апосталы каля Езуса і расказалі Яму ўсё, што зрабілі і чаму навучылі. І Ён сказаў ім: "Пайдзіце адны ў пустыннае месца і крыху адпачніце". Бо так шмат людзей прыходзіла і адыходзіла, што нават не было ім калі паесці. І адплылі яны ў пустыннае месца на чаўне адны.

І ўбачылі, што яны адплылі. І шмат хто, даведаўшыся, пешкі збегліся туды з усіх гарадоў і апярэдзілі іх. Выйшаўшы, Езус убачыў мноства людзей і злітаваўся над імі, бо яны былі як авечкі без пастыра. І пачаў іх вучыць многаму.

## БОЖЫЯ КАНІКУЛЫ

З пададзенага вышэй фрагмента Евангелля вынікаюць тры важныя ісціны. Першая: абвяшчэнне Добрай Навіны заўсёды знойдзе слухачоў, і ніколі тыя, хто аддае сябе гэтаму занятку, не застануцца без працы. Зацікаўленасць Евангеллем звязана з рацыянальнымі карысцямі – яго слухачы атрымліваюць шмат ласкаў і таму заўсёды будуць зацікаўлены асобай Езуса. Другая ісціна: праца абвяшчэння Евангелля можа аказацца настолькі стамляльнай, што будзе патрабаваць перыядычнага адпачынку. Чалавек, заганяны рознымі абавязкамі перад іншымі, павінен знайсці таксама час для сябе, каб у цішыні і засяроджанні паразважаць над сэнсам сваіх намаганняў. Падказка Езуса, каб для адпачынку пайсці на пустынныя месца, раіць таксама асабістую сустрэчу з Богам, які прамаўляе ў цішыні і адзіноце. І трэцяя ісціна: вучань Хрыста можа зрабіць спробу хвіліна адысці ад людзей, але не можа ўцякаць ад іх! Хрысціяніну заўсёды спадарожнічае адказнасць за бліжняга. Пан Езус не пакідае сумненняў, што нават на хвіліну нельга перастаць быць Яго вучнем. Асабліва тады, калі свет чакае Добрай Навіны.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Не ведаю, ці ведаеш Ты, але Бог Цябе любіць

**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

Бог любіць кожнага чалавека і для кожнага мае цудоўны план збаўлення. Я ніколі яшчэ не сустракаў чалавека, якога б Бог не любіў, але часам сустракаю людзей, якія не любяць Бога. Кожнаму з нас вядомы словы Езуса: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16). Вера з'яўляецца фундаментам любові Бога да чалавека і чалавека да Бога. Але ёсць тыя, хто, як я ўзгадаў, не любіць Бога, бо яны не маюць веры ў сэрцы. Вера ў Бога дапамагае чалавеку адчуць, што такое любоў, сапраўдная любоў, якая паходзіць ад Бога. Сведкамі любові мы становімся штодзённа, калі дазваляем Богу ўвайсці ў сваё жыццё. Беларус, у параўнанні, напрыклад, з італьянцам ці немцам, замкнуты. Мы не хочам першымі ісці на кантакт, баімся новага досведу ці знаёмстваў, нас больш цікавіць "уласны агарод". Абы так не было і ў рэлігійным жыцці. Таму варта прасіць аб дары адкрытасці на Бога, на Яго ласку, на вялікую Божую любоў.

Чалавечае жыццё становіцца для кожнага з нас пляцоўкай Божай любові. Бог з любоўю і мудрасцю вядзе ўсе стварэнні да іх канчатковай мэты. Нашая любоў напэўна не ўзбагаціць Бога, але калі мы Яго любім, мы ставім Яго на першае месца, мы можам перажыць вялікі дар чалавечага жыцця па-божаму. Мы становімся тады шчаслівымі і гаворым, якое цудоўнае наша жыццё. Больш таго, любячы Бога, мы любім таксама ўсіх іншых, любім па-сапраўднаму, пачынаючы ад тых, хто да нас бліжэй за ўсё.

Калі мы рэгулярна будзем прыходзіць на святую Імшу, прыступаць да споведзі, памятаць пра Божыя запаведзі, мы пачуем незвычайнае прызнанне апостала Паўла: "Бо я перакананы, што ні смерць, ні жыццё, ні анёлы, ні ўлады, ні цяперашняе, ні будучае, ні сілы, ні вышыня, ні глыбіня, ні іншае якое стварэнне не зможа адлучыць нас ад любові Божай, якая ёсць у Хрысце Езусе, Пану нашым" (Рым 8, 38–39).

Бог ёсць Любоў. Толькі Ён можа патрабаваць ад чалавека любові, большай за ўсё. Бог не толькі па-сапраўднаму любіць нас усіх і кожнага паасобку. Ён любіць нас больш, чым хтосьці іншы, больш, чым самыя любячыя мама ці тата, больш, чым самыя адданыя муж ці жонка, сын ці дачка. Можа, нам складана адразу ўсё гэта зразумець, але адчуваючы вялікую любоў і апеку Бога ў сваім жыцці, мы спрабуем гэта прыняць і зразумець. Бог не маніпулюе чалавекам, Яго любоў бескарыслівая. Таму толькі Бог можа чакаць ад чалавека любові ўсім сэрцам і ўсёй душой, усімі сіламі і ўсім розумам.

Давайце прыгадаем сабе фрагмент з Евангелля, які апісвае размову Езуса з апосталам Пятром на беразе Тыберыядскага мора (параўн. Ян 21, 15–17). Езус спытаўся ў яго, прычым тройчы, аб самым важным. Спытаўся ў яго аб любові. "Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне больш, чым яны? [...] Ці любіш ты Мяне?". Той жа двойчы адказаў: "Так, Пане, Ты ведаеш, што я люблю Цябе". Пытанне, зададзенае ў трэці раз, занепакоіла Пятра.

**І сёння Пан Езус пытаецца ў кожнага з нас – пытаецца некалькі ці нават некалькі дзясяткаў разоў – аб любові чалавека да Бога. Ты можаш адказаць Яму сваім жыццём. А калі Ты яшчэ не знайшоў адказу, то не ведаю, ці ведаеш Ты, але Бог Цябе любіць.**

ДЭКАНАТ Радунь

# Радунь.
## Касцёл Маці Божай Ружанцовай

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***


*Знешні выгляд святыні*


*Інтэр'ер святыні*

Касцёл быў заснаваны тут па мецэнацтве каралевы Боны Сфорцы ў 1556 г. Па іншых звестках – у 1538 г. Пасля ліхалецця сярэдзіны XVII ст., у 1660 г. драўляны касцёл быў адноўлены і асвечаны пад гістарычным тытулам Маці Божай Ружанцовай. Чарговыя драўляныя святыні гарэлі і адбудоўваліся нанова ў 1662 г. (пасля "маскоўскага нашэсця" адноўлены і кансэкраваны б-пам Слупскім), 1752 і 1801 гг.

Апошні драўляны будынак святыні (фарны) быў узведзены ў 1838 г. намаганнямі ксяндза Маціеўскага на сродкі парафіян. Асновай гэтай святыні сталі былы пакармеліцкі касцёл з Калеснікаў (сёння Літва), які перанеслі ў Радунь. Пры касцёле дзейнічала парафіяльная школа.

На пачатку XX ст. драўляны касцёл (велічная святыня з трансептам, завершаная невялікай васьмігранная вежай над галоўным фасадам) ужо не задавальняў сваіх парафіян, і ў 1933 г. над Радунню ўзнеслася велічная дзвюхвежавая базіліка з цэглы і бутавага каменю ў стылі мадэрн (з рысамі неаготыкі). Пачалі будаваць касцёл у 1929 г. паводле праекта архітэктара Яна Бароўскага, будаўнічымі працамі кіраваў майстар Антоні Бепка.

Касцёл уяўляе сабою дзвюхвежавую трохнававую базіліку з пяціграннай апсідай, арыентаванай алтаром на ўсход і фланкаванай дзвюма сакрыстыямі і трансептам з чатырохграннымі ў плане крыламі. Святыня мае велічныя памеры: у даўжыню яна 58 метраў, у шырыню – 35, вежы ўзносяць крыжы на 48 метраў. Галоўны фасад з акном-ружаю пад трохвугольным франтонам фланкаваны чатырох'ярУснымі (верхні ярус васьмерыковы, ніжнія – чацверыковыя) вежамі-званіцамі пад купаламі з глаўкамі. Нартэкс вынесены перад касцёлам у самастойны нізкі аб'ём з неагатычным глыбокім парталам галоўнага ўвахода. Травея сяродкрыжжа пашырана і таксама вылучана ў кампазіцыі ў асобны аб'ём, завершаны на кожным фасадзе ступеньчатымі атынкаванымі франтонамі. Цэнтральная нава ўмацавана ступеньчатымі контрфорсамі.

Інтэр'ер перакрыты дашчаным атынкаваным скляпеннем, спічастым у сячэнні. Сяродкрыжжа перакрыта каробчатым скляпеннем на перасечаных велічных спічастых арках. Бакавыя навы маюць эмпоры. Усё размалявана раслінай арнаментыкай у стылі мадэрн. На сценах сяродкрыжжа намаляваны сцэны "Апошняя Вячэра" (на левай сцяне) і "Унясенне ў пячору" (на правай). У базіліцы пяць алтароў у стылі барока, якія захаваліся ад старога касцёла, і яшчэ адзін, "пахавальны", з абразом св. Францішка з Асізі, знаходзіцца пад правай вежай. Галоўны алтар аднаярусны, вырашаны ў выглядзе трыфорыума, завершанага фігурамі Пана Езуса і анёлаў. У цэнтры змешчаны абраз сярэдзіны XVIII ст. (верагодна, сюды ён трапіў з кармеліцкага кляштара ў Калесніках) – Маці Божая перадае шкаплер генералу кармелітаў Сымону Стоку. Па баках усталяваны абразы св. Марыі Магдалены (злева) і св. Тэрэзы ад Крыжа (справа). Два драўляныя двух'ярусныя алтары стаяць пры вуглах травеі сяродкрыжжа: злева – алтар св. Антонія з абразом "Зняцце з Крыжа" наверсе (на менсе алтара ўсталяваны невялікі абраз Езуса са шматлікімі вотамі), справа – св. Юрыя з абразом Пана Езуса ў цярновай кароне ў другім ярусе. Яшчэ два двух'ярусныя алтары – св. Юзафа (злева) і Маці Божай Ружанцовай (справа), дзе Багародзіца перадае ружанец св. Дамініку, а Яе фігура абведзена вянком з кветкавых бутонаў, у сярэдзіне якіх намаляваны сюжэты ўсіх пятнаццаці ружанцовых таямніц (у другім ярусе алтара знаходзіцца абраз святых апосталаў Мацвея і Фамы) – усталяваны ў капліцах, зробленых у крылах трансепта. Над нартэксам знаходзяцца арганныя хоры, раскрытыя ў малітоўную залу велічнай спічастай аркай.

У XIX ст. пры касцёле дзейнічала парафіяльная школа, а да парафіі прыпісвалася філія ў Дубічах (сёння Літва). Была ў тыя часы і драўляная капліца на парафіяльных могілках, аднак у XX ст. як дзеючая яна больш не ўзгадвалася. У 1815 г. была заснавана капліца пры плябаніі, але з часам звесткі аб ёй таксама знікаюць. Перад Другой сусветнай вайной колькасць радунскіх парафіян перавышала 8000 вернікаў. Будынак былога драўлянага касцёла па-ранейшаму стаяў за некалькі сотняў метраў на паўночным усходзе ад новага каменнага, але выкарыстоўваўся толькі як сховішча. Згарэла былая святыня ўжо пры савецкай уладзе, пасля вайны. Затое побач з новым касцёлам захаваўся драўляны будынак былой плябаніі, дзе сёння месціцца бальніца.

Касцёл Маці Божай Ружанцовай дзейнічаў увесь час, аднак пры савецкай уладзе не быў залічаны да помнікаў архітэктуры. Сёння ж мастацкая каштоўнасць святыні ўжо не выклікае сумненняў.

# “Каб зямля Магілёўшчыны зноў расцвіла ў імя Хрыста”

● працяг са с. 1

***Галоўным пасвячаючым быў Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці, асістуючымі – старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.***

Тое, што Апостальскі нунцый удзяліў гэтае пасвячэнне ў Год кансэкраванага жыцця, падкрэслівае асаблівую сувязь, якая існуе паміж манахамі і манахінямі з Беларусі, да якіх належыць новапрызначаны біскуп, з асобай і паслугай Рымскага Пантыфіка. Гэтая падзея з'яўляецца кульмінацыйным момантам святкавання Года кансэкраванага жыцця і асаблівым чынам выражае падзяку Касцёла за прысутнасць і працу кансэкраваных асоб у каталіцкім Касцёле ў Беларусі.

На пачатку св. Імшы Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, звяртаючыся да прысутных, сказаў: *“Сёння вялікі дзень. Мы дзякуем Богу і Святому Айцу, які добра бачыць патрэбы каталіцкага Касцёла ў Беларусі і за апошні час павялічыў колькасць беларускіх біскупаў у два разы”.* Арцыпастыр падзякаваў таксама бацькам новапрызначанага біскупа, салезіянскай супольнасці, да якой ён належыць. Мітрапаліт папрасіў усіх прысутных маліцца за новага іерарха, які “ўзяты з людзей і пастаўлены для людзей”, а таксама маліцца аб новых пакліканнях да святарства і кансэкраванага жыцця.

Абрад пасвячэння пачаўся Гімнам да Святога Духа. Затым прадстаўнік прэзбітэрыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ксёндз Юрый Быкаў звярнуўся да Апостальскага нунцыя з просьбай удзяліць біскупу намінанту пасвячэнне. Была прачытана намінацыйная була Святога Айца.

**“Дзеці заўсёды павінны мець магчымасць доступу да свайго Айца”**

Апостальскі нунцый звярнуўся да прысутных з гаміліяй. *“Мы вельмі рады ад імя Святога Айца зрабіць гэты падарунак вашаму Касцёлу, такому хвалебнаму, які так шмат пацярпеў”,* – сказаў арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці. Па яго словах, вельмі важна, што ў лік новых беларускіх біскупаў уваходзіць законнік. Прадстаўнік Папы падзякаваў салезіянам ад імя біскупаў, святароў і ўсяго Касцёла. *“Калі моладзь гэтай зямлі змагла адчуць позірк Нябеснага Айца, які Ён скіроўвае ёй проста ў вочы, гэта менавіта дзякуючы вашаму служэнню”,* – сказаў Апостальскі нунцый, звяртаючыся да салезіянаў.

Арцыбіскуп звярнуўся і да сям'і новапрызначанага біскупа, адзначыўшы: *“Вы з'яўляецеся ўвасабленнем здаровых каранёў гэтага народа. Калі карані здаровыя, гэтая жыццёвая сіла перадаецца таксама вашым дзецям. Вы вырасцілі вашага сына ў атмасферы любові і далікатнасці”. “Сёння вялікая сям'я Касцёла дзякуе гэтай маленькай сям'і”,* – дадаў іерарх.

**“Каб зямля Магілёўшчыны зноў расцвіла ў імя Хрыста”**

Кажучы пра біскупа намінанта, Апостальскі нунцый падкрэсліў: *“Каб абудзіць людзей з духоўнай спячкі, патрэбны менавіта гэтыя чалавек”.* Па словах прадстаўніка Папы, *“неабходна, каб зямля Магілёўшчыны зноў расцвіла ў імя Хрыста, каб адчуваўся Хрыстовы водар, каб людзі пайшлі за гэтым водарам”.*

*“Сёння свята Касцёла,* – заўважыў арцыбіскуп. – *Бог любіць нас настолькі моцна, што дае гэты знак – знак прысутнасці біскупа сярод свайго народа”.*

**“Гэты народ павінен адчуць суцяшэнне”**



Абрад біскупскага пасвячэння

Звяртаючыся да біскупа намінанта, Апостальскі нунцый заклікаў яго: *“Ніколі не кажы гэтаму народу, што трэба ўвесь час пакутаваць. (...) Гэты народ павінен адчуць суцяшэнне, і толькі Бог можа суцешыць, бо Ён адзіны можа аддаць сябе да канца”.*

*“Той канкрэтны чалавек, які пастукаецца ў тваё дзверы або да каго пастукаешся ты, з'яўляецца Святым Касцёлам Божым,* – сказаў Апостальскі нунцый біскупу намінанту. – *Мы, біскупы, павінны заўсёды прысутнічаць сярод свайго народа, каб весці гэтую Божую нявесту да свайго Жаніха – Хрыста”.*

Потым кандыдат адказаў на пытанні, якія задаў галоўны пасвячаючы, такім чынам выказаўшы згоду выконваць біскупскія абавязкі. Усе прысутныя памаліліся Літаніяй да Усіх Святых. Затым адбылося ўскладанне рук і малітва пасвячэння. Апостальскі нунцый і ўсе біскупы па чарзе ўсклалі рукі на галаву выбранага ў знак яго далучэння да Калегіі Біскупаў. Змест малітвы пасвячэння праслаўляе біскупа як пастыра. Пасля гэтых абрадаў, калі выбраны ўжо з'яўляецца біскупам, галоўны пасвячаючы намасціў яго чало, што нагадвае аб містычным намашчэнні Духам Святым і дае плённасць біскупскаму служэнню.

Новаму іерарху былі ўручаны кніга Евангелля, што нагадвае аб галоўным заданні кожнага біскупа – абвяшчэнні Добрай Навіны, і біскупскія знакі – персцень, мітра і пастарал. Персцень – знак вернасці і напамін біскупу ахоўваць Божую абранніцу – Святы Касцёл. Мітра сімвалізуе святасць, якой біскуп павінен адзначацца сярод людзей. Пастарал – сімвал пастарскай улады і адначасова напамін аўчарні, але ж правадыр на шляху да збаўлення. Абрад пасвячэння завяршыўся пацалункам супакою, які ўдзялілі пасвечанаму ўсе прысутныя біскупы.

Новага біскупа суправаджалі да алтара падчас пасвячэння дэкан Магілёўскі і пробашч катэдральнай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава ў Магілёве ксёндз Юрый Быкаў і ксёндз дэлегат Віктар Гайдукевіч SDB.

Варта адзначыць таксама, што пасвячэнне адбылося ў юбілейны год 200-годдзя з дня нараджэння святога Яна Боско.

**“Адно чаканне: глыбей пазнаць самому і абвяшчаць іншым Сына Божага”**

Біскуп Аляксандр Яшэўскі ў сваім слове падзякі сказаў: *“Дзякую Табе, Пане, за тое, што працягваеш выбіраць, клікаць і пасылаць на служэнне свайго сына. Таямніца паклікання, асабліва апостальскага паклікання, – гэта Твая свабодная ініцыятыва і Твой знак бясконцай любові да чалавека, бо яго лёс Табе, Пане, не абыякавы”.*

***“У мяне ёсць толькі адно жаданне: каб сапраўды выканаць волю Бога, Айца і Збаўцы. Адно чаканне: глыбей пазнаць самому і абвяшчаць іншым Сына Божага. Адна смага: насычацца асалодай і радасцю Духа Святога. Таму сёння з усім Касцёлам у яго Мінска-Магілёўскай частцы прашу дапамагчы мне жыць і служыць для гэтага, і толькі для гэтага”,*** – дадаў біскуп.

***Анастасія Грышан***
*(матэрыял апрацаваны)*

# “Шукайце не ўласнай карысці, а Божай хвалы”

● працяг са с. 1

**Святасць – крыніца радасці**

Ва ўрачыстай святой Імшы ўдзельнічалі святары, выкладчыкі і выхаваўцы Гродзенскай ВДС, родныя новапрэзбітэраў і шматлікія вернікі. Кандыдатаў прадставіў біскупу Аляксандру Кашкевічу рэктар семінарыі кс. Раман Рачко.

У гаміліі ксёндз біскуп нагадаў вернікам і кандыдатам да святарства сутнасць прэзбітэрскага служэння. Як адзначыў іерарх, святары з'яўляюцца супрацоўнікамі біскупаў, яны злучаны з біскупамі ў святарскім служэнні і пакліканы служыць народу Божаму.

*“Ад моманту прыняцця прэзбітэрскага пасвячэння ў імя Хрыста Настаўніка вы будзеце спаўняць служэнне навучання сярод давераных вам,* – сказаў біскуп, звяртаючыся да кандыдатаў. – *Няхай ваша навука будзе пасілкам для народу Божага, няхай святасць вашага жыцця стане крыніцай радасці для вызнаўцаў Хрыста. Такім чынам вы словам і прыкладам будзеце будаваць дом Божы, гэта значыць Касцёл”.*

*“З нястомнай радасцю і сапраўднай любоўю спаўняйце служэнне Хрыста Святара, не шукаючы ўласнай карысці, але Яго хвалы”,* – дадаў іерарх.

**Вернасць Хрысту**

Пасля гаміліі біскупа кандыдаты склалі абяцанні, праз якія ўзялі абавязак вернага выканання святарскага служэння, пільнага і мудрага служэння Слова, цэлебрацыі святых сакрамантаў для асвячэння народу, малітвы і цеснага яднання з Хрыстом, Найвышэйшым Святаром.

На заканчэнне Імшы ад імя новапасвечаных святароў да прысутных звярнуўся кс. Юрый Садоўскі, які падзякаваў Богу за дар паклікання да службы ў Хрыстовым Касцёле, выказаў удзячнасць усім, хто паспрыяў таму, што зерне паклікання саспела і прынесла плён у сэрцах новапрэзбітэраў.



Новапрэзбітары разам з кс. біскупам Аляксандрам і выхавацелямі ВДС

Біскуп Аляксандр Кашкевіч пажадаў сваім новым супрацоўнікам прыгожага святарства, якое будзе асвячаць іх саміх і набліжаць людзям вобраз Бога.

Іерарх падзякаваў таксама бацькам новапрэзбітэраў, а ўсіх прысутных заахвоціў да малітвы, цярпення, посту ў інтэнцыі святароў, *“каб былі моцнымі і без сумненняў неслі ўсім Езуса Хрыста”.*

***Кс. Юрый Марціновіч***

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Хрыстос, які нас корміць пад кансэкраванымі постацямі хлеба і віна, той самы, які выходзіць нам насустрач у штодзённых падзеях; Ён у тым убогім, які працягвае далонь, у тым пакутуючым, які просіць дапамогі, у нашым браце, які просіць нашай увагі і чакае нашага прыняцця. Ён у кожным чалавеку, нават у самым малым і безабаронным.*

*Эўхарыстыя, крыніца любові для жыцця Касцёла, з'яўляецца школай міласэрнасці і салідарнасці. Той, хто ўжывае Хлеб Хрыстовы, не можа застацца абыякавым да тых, хто не мае хлеба штодзённага.*

*Анёл Панскі са Святым Айцом*

***Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч***



*Калі б задаць пытанне сучаснаму чалавеку, ці верыць ён у вечнае жыццё, то, напэўна, не ўсе на яго адказалі б станоўча. Нават і веруючыя нярэдка кажуць, што хаця і вераць у вечнае жыццё, аднак аддаюць перавагу зямному. Такі ўжо чалавек: яму бліжэй тое, што ён бачыць і мае, а не абяцаная перспектыва.*

*У той жа час Езус у Евангеллі паводле Яна кажа, што вечнае жыццё заключаецца ў пазнанні Бога. А пазнаць Бога – азначае штодзённа мець адносіны з Ім. Таму, каб мець вечнае жыццё, неабходна ведаць Бога так, як Ён ведае самога сябе, з мэтай дасягнуць вечную радасць у Нябесным Валадарстве.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы ў пар. Беззаганнага Зачацця НПМ у Касцяневічах*

***Кс. бп Юзаф Станеўскі***



*Ад паводзін моладзі, стылю жыцця і разважу залежыць тое, ці адшукаюць іншыя людзі дарогу да Бога. Як святы Ян паказаў на Хрыста, які прыходзіць, так трэба і нам паказваць на прысутнасць Хрыста ў нашым жыцці, на тое, што Ён з'яўляецца нашай дарогай, па якой мы крочым, і надзеяй, па якой сумуем.*

*Фрагмент гаміліі падчас св. Імшы ў пар. св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве*




◆ У Ватыкане адбыўся другі розыгрыш латарэі, арганізаванай губернатарам Дзяржавы Ватыкан. Галоўнай узнагародай быў аўтамабіль Kia Soul, якім папа Францішак карыстаўся падчас візіту ў Карэю. Сярод іншых выйгрышаў былі таксама два веласіпеды, фігуры Маці Божай і Святой Сям'і. Латарэйныя білеты распаўсюджвалі выключна ватыканскія ўстановы. Увесь даход ад латарэі прызначаны на дабрачынную дзейнасць Папы. Са сродкаў, атрыманых на падобныя мэты ў апошні час былі ўстаноўлены душы для бяздомных і арганізавана пілігрымка для іх у Турын на выстаўленне плашчаніцы.

◆ У Заходняй Еўропе пасля Божага Нараджэння і Вялікадня перыядам, які прыносіць найбольшы даход гандлярам з'яўляецца рамадан. З даследаванняў, праведзеных, напрыклад, у Брытаніі і Францыі, вынікае, што ў гэтым годзе брытанская гаспадарка заробіць на ісламскім месяцы посту больш за 140 мільёнаў еўра. Французскія вызнаўцы ісламу ў сваю чаргу патрацяць на сямейнае святкаванне ў гэты час больш за 350 мільёнаў еўра.

◆ У Францыі працягваецца палітыка ўвядзення і захавання секулярызму. Гэтым разам мэтай з'яўляюцца ўжо не толькі яслі, дзіцячыя садкі і школы, але нават спартыўныя аб'екты. Таварыства французскіх мэраў рэкамендуе ўвядзенне юрыдычнай забароны выкарыстання спартсменамі любых рэлігійных жэстаў на тэрыторыі спартыўных аб'ектаў. Абгрунтоўваючы гэты законапраект, была падкрэслена "непакоячая з'ява выканання знакаў крыжа футбалістамі ці прысутнасць на стадыёне жанчын у ісламскім адзенні".

◆ З 26 ліпеня ўдзельнікі і валанцёры змогуць зарэгістравацца на Сусветныя дні моладзі ў Кракаве. Арганізатары прагнуць, каб першым зарэгістраваўся папа Францішак, і просяць яго, каб 26 ліпеня падчас малітвы "Анёл Панскі" ён заахвоціў да рэгістрацыі моладзь усяго свету. Запуск сістэмы рэгістрацыі пілігрымаў і валанцёраў адбудзецца дакладна за год да цырымоніі адкрыцця СДМ. Канчатковы кошт і падзел пакетаў стануць вядомы разам з распачаццем рэгістрацыі. Вядома, што ўдзельнікі будуць мець на выбар сем відаў пакетаў пілігрыма.

◆ У каталіцкім Касцёле ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах (ААЭ) і Амане на мільён вернікаў прыпадае толькі 11 парафій. Мясцовыя святыні заўсёды перапоўнены вернікамі. У некаторых парафіях нядзельныя св. Імшы пачынаюць адпраўляць ужо ў чацвер. Сярод каля 8,3 мільёнаў жыхароў ААЭ 13% складаюць хрысціяне, прычым 10% з іх – католікі. Вызнаўцы Хрыста ў гэтым рэгіёне – гэта амаль выключна працоўныя мігранты, пераважна філіпінцы і хрысціяне з Індыі. У гэтай краіне хрысціяне маюць рэлігійную свабоду, хоць і абмежаваную сценамі касцёла. Там служаць 60 ксяндзоў. Мясцовых католікаў адрознівае жывая вера і дынамічнасць, што рашуча адрознівае іх ад хрысціян у Еўропе.

*Ватыканскае радыё; ekai.pl; katolik.ru; credo-ua.org; pch24.pl.*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# У Гродне адзначылі 25-годдзе аднаўлення набажэнстваў у пабрыгіцкім касцёле



***Урачыстасці з нагоды 25-годдзя аднаўлення і адраджэння рэлігійнага жыцця пры рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі адбыліся 20 чэрвеня.***

Святкаванні пачаліся ў касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі) адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту. Затым вернікі і духавенства ў эўхарыстычнай працэсіі перайшлі ў касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі.

Перад св. Імшой гродзенскі гісторык Уладзімір Ляўшук прачытаў даклад, у якім падрабязна распавёў пра гісторыю пабрыгіцкага касцёла. Затым распачалося ўрачыстае набажэнства, якое цэлебраваў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. У Эўхарыстыі прыняў удзел таксама дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

У гаміліі арцыпастыр прыгадаў тыя часы, калі ў канцы 1980-х гадоў улады паволі пачалі перадаваць Касцёлу канфіскаваныя раней святыні. Таксама іерарх зазначыў: "Маючы на ўвазе тое, што касцёл належыць супольнасці сясцёр назарэтанак, яго сучасная гісторыя дае выдатны адказ на пытанне: «Што добрага можа быць з Назарэту?» Аганьбаваны і зруйнаваны, ён ізноў прыцягвае людзей прыгажосцю сваёй архітэктуры і з'яўляецца месцам спаткання чалавека з Богам".




# У Верцялішках асвяцілі крыж і зямлю пад будаўніцтва новага касцёла



***Пляц, дзе будзе ўзведзены касцёл Святой Сям'і асвяціў гродзенскі ардынарый кс. бп Аляксандр Кашкевіч.***

Іерарх адзначыў, што маладая парафіяльная супольнасць абрала сваімі апекунамі Святую Сям'ю, а "гэта вялікі заклік для ўсіх нашых сучасных сем'яў, каб былі моцныя Богам. Сёння нашай краіне патрэбна моцная сям'я, якая абапіраецца на Пана Бога і Божыя запаведзі".

Пастар заахвоціў усе сем'і, якія ўваходзяць у гэтую парафіяльную супольнасць, будаваць бачны касцёл, якім з'яўляецца будынак, і духоўны Касцёл, які ўтвараюць людзі. Вернікі падзякавалі біскупу за асвячэнне крыжа і зямлі, а таксама за ўдзяленне пастарскага благаслаўлення на час будаўніцтва парафіяльнай святыні.

# Святкаванне 625-годдзя Быстрыцы прайшло ў мясцовай парафіі Узвышэння Святога Крыжа





***Урачыстасці ўзначаліў дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец. Падчас святой Імшы іерарх удзяліў сакрамант канфірмацыі больш чым 80 маладым вернікам.***

"Памятайце, што Біблія – гэта кніга мудрасці, якая дае адказы на ўсе пытанні. Біблія нам кажа, хто такі Бог. Ён наш Стварыцель, а мы Яго дзеці. Паміраюць каралі і цары, распадаюцца дзяржавы, а святая Імша адпраўляецца, як і раней", – адзначыў у гаміліі біскуп.

Пасля ўдзялення сакраманту канфірмацыі і святой Імшы прысутныя памаліліся Літаніяй да Найсвяцейшага Сэрца Езуса і атрымалі ўрачыстае благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам. Свята працягнулася выступленнем харавых калектываў.

# Парафія ў Адэльску адзначыла 525-гадовы юбілей






***Урачыстая святая Імша з нагоды юбілею парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася 13 чэрвеня. Сваю родную парафію наведаў у гэты дзень Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.***

У гаміліі падчас Імшы Мітрапаліт параўнаў Касцёл з лодкай, якой кіруе Хрыстос праз свайго намесніка на зямлі – Папу. "І калі мы давараем сябе Хрысту, то можам быць упэўненымі, што Ён суцішыць буры і абароніць нас ад кожнай небяспекі", – сказаў іерарх. Арцыбіскуп дадаў, што так было і з адэльскай парафіяй, асабліва ў часы праследаванняў у ХХ ст., калі там доўгія гады не было святара, атэістычная ўлада забараняла дзецям наведваць касцёл.

"Сёння мы дзякуем нашым продкам за запрашэнне і прыняцце Хрыста ў гэтай адэльскай зямлі 525 гадоў таму. Дзякуем мінулым пакаленням за трыванне ў веры, абарону яе падчас праследаванняў і перадачу маладым пакаленням адэльчан", – сказаў іерарх.

Іерарх нагадаў, што з адэльскай зямлі выйшлі многія святары, чатыры біскупы. Мітрапаліт пажадаў, каб адэльская парафія і далей заставалася "вернай Богу і традыцыям нашых продкаў, месцам пасвячэння Богу чалавечых сэрцаў".

Пасля Імшы зноў адбылася працэсія вуліцамі мясцовасці, падчас якой у цэнтры Адэльска быў асвечаны васьмітонны камень, які быў адмыслова ўсталяваны да 525-годдзя парафіі. Гэты камень упрыгожаны выявай герба Адэльска, на якім з аднаго боку змешчана выява св. Антонія, а з другога – выява касцёла.

Таксама з нагоды ўрачыстасці быў падрыхтаваны медаль ганаровага грамадзяніна Адэльска, якім быў узнагароджаны арцыбіскуп Кандрусевіч.

# У Гродне адсвяткавалі юбілей 25-годдзя з часу заснавання Вышэйшай духоўнай семінарыі




***У гэты адметны дзень навучальную ўстанову наведалі многія шаноўныя госці, былыя выкладчыкі і выпускнікі семінарыі, якія сёння служаць у розных частках Беларусі. Сярод гасцей быў і заснавальнік семінарыі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.***

Справаздачу з дзейнасці навучальнай установы на працягу 25 гадоў прадставіў прэфект семінарыі кс. Віталій Сідорка, нагадаўшы ў ёй гісторыю заснавання семінарыі і падрыхтоўкі маладых людзей да святарскага служэння. Прэфект узгадаў таксама тых, хто стаяў ля пачаткаў семінарыі і ўклаў шмат працы ў яе заснаванне.

У сваю чаргу біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у сваім слове падзякаваў за працу і адданасць многіх руплівых святароў, дзякуючы якім стала магчымым узнікненне гэтай навучальнай установы і яе развіццё. Асаблівым чынам біскуп падзякаваў двум святарам, якія ўтваралі семінарыю ў Гродне ад самага пачатку яе існавання: ксяндзу прэлату Ежы Мар'яну Лявінскаму і айцу Андрэю Шчупалу CSsR. Іерарх выказаў ім падзяку за служэнне і сведчанне святарскай паставы і ўручыў папскую адзнаку – крыж заслугі "Pro Ecclesia et Pontifice" ад Святога Айца Францішка.

Кульмінацыйным пунктам святкавання стала ўрачыстая святая Імша, якую ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у пабернардынскім касцёле.

У гаміліі Мітрапаліт сказаў, што гродзенская семінарыя "вытрывала выпрабаванне часам не толькі як навучальная і выхаваўчая ўстанова, але яшчэ і як сведчанне Евангелля для тых, хто перанёс цяжкія часы праследавання, і для тых, хто сёння змагаецца з выклікамі часу".

Святкаванні завяршыліся асвячэннем і адкрыццём памятнай дошкі, якая будзе нагадваць аб гэтай юбілейнай урачыстасці. Кожны ўдзельнік атрымаў памятны альбом, у якім прадстаўлена гісторыя заснавання семінарыі.

# У Ваўкавыску адбылося асвячэнне касцёла



***На ўрачыстасць асвячэння святыні ў парафіі св. Станіслава Косткі прыбылі Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці і біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.***

Вернікі парафіі перадалі арцыбіскупу ключ ад касцёла, і прадстаўнік Папы па іх просьбе ўрачыста адчыніў дзверы святыні.

Падчас святой Імшы Апостальскі нунцый блаславіў ваду і акрапіў ахвярны стол, алтар і сцены. У гаміліі прадстаўнік Папы нагадаў пра вялікую любоў Бога і пра тое, што кожны вернік з'яўляецца тым жывым каменем, з якога і будуецца Хрыстовы Касцёл.

Пасля Літаніі да Усіх Святых арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці прамовіў малітву асвячэння касцёла, і іерархі намасцілі сцены святыні, пасля нунцый акадзіў касцёл і ўсіх прысутных.

Варта адзначыць, што асвячэнне новага касцёла адбылося ў год, калі парафія адзначае 90-годдзе з дня заснавання.

# Парафія Святой Сям'і ў Лідзе – пераможца VII Парафіяды



***25 чэрвеня ў касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне адбылося ўрачыстае заканчэнне VII Парафіяды дзяцей і моладзі Гродзенскай дыяцэзіі. Сёлета ў сустрэчы, дэвізам якой сталі словы "Навярні нас, Пане, і да Цябе вернемся" (Плач 5, 21), прынялі ўдзел 500 чалавек з 33 парафій.***

Традыцыйна Парафіяда праходзіла на падставе трыяды: "Святыня–Тэатр–Стадыён". Святыня займала асаблівае месца ў гэтым мерапрыемстве, бо кожны дзень распачынаўся ў імя Бога.

Сустрэча дзяцей і моладзі, якія праз малітву, спартыўныя спаборніцтвы і тэатральныя пастаноўкі праслаўлялі Бога, прайшла пад душпастарскай апекай святароў Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама біскупа Віцебскага Алега Буткевіча і біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча.

У сёлетняй Парафіядзе, якая дапамагла дзецям і моладзі ўмацаваць веру і нанова адкрыць яе скарб, перамагла парафія Святой Сям'і ў Лідзе.




# V Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці прайшоў у Гродне

***Сёлета свята, якое было арганізавана пры парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, праходзіла пад дэвізам "Хачу быць місіянерам радасці". У "краіну радасці" ў гэты дзень прыбыло каля 2 тысяч дзяцей з усёй Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама дзеці з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.***

Арганізатары падрыхтавалі для ўдзельнікаў мноства разнастайных сюрпрызаў і забаўляльную праграму. Таксама ў праграме былі розныя спартыўныя спаборніцтвы.

Цэнтральным пунктам Дня дзіцяці была святая Імша, якую цэлебраваў кс. бп Аляксандр Кашкевіч у інтэнцыі ўсіх дзяцей дыяцэзіі. V Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці скончыўся абрадам рассылання маленькіх місіянераў у свет. Прадстаўнікі кожнай парафіі атрымалі з рук біскупа Аляксандра запаленыя свечкі і пасланне, у якім было напісана: "Місіянер – гэта той чалавек, які выязджае ў далёкія краіны, каб расказваць людзям пра Бога, дзяліцца радасцю і міласэрнасцю, як Пан, дапамагаць у цяжкую хвіліну. Місіянерамі бываюць святары і манаскія сёстры, але таксама можам быць і мы, кожны з нас. Мы можам гэта рабіць нават сёння, нават зараз, кожны наш дзень несці Езуса ў сэрцы іншых людзей".

## З каталіцкага друку

### Radio Vaticana

**Новая энцыкліка папы Францішка**

***Зямля, нашая сястра, "пратэстуе супраць зла, якое мы ёй прычыняем праз неадпаведнае выкарыстанне і марнатраўную эксплуатацыю даброт", – напісаў папа Францішак у энцыкліцы "Laudato si" (Будзь пахвалёны), прысвечанай, як расплумачыў, "клопату пра супольны дом".***

*У дакуменце, які складаецца з 190 старонак, Папа заклікаў да "экалагічнага навяртання". Тытул энцыклікі – гэта словы з песнапенняў св. Францішка з Асізі. Папа сказаў, што згодна з яго прыкладам абавязковым з'яўляецца спалучэнне клопату пра асяроддзе са шчырай любоўю да чалавека і з пастаяннай зацікаўленасцю праблемамі грамадства.*

### eKai.pl

**18 кастрычніка канізацыя бацькоў св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус**

***Упершыню ў гісторыі падчас адной урачыстасці будуць кананізаваны сужэнцы.***

*Падставай для іх кананізацыі стаў цуд малой Кармэн Пэрэз Понс, народжанай 15 кастрычніка 2008 г. у Валенсіі ў Іспаніі ва ўспамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус і за чатыры дні да кананізацыі Людвіка і Зэліі Марцін (бацькоў св. Тэрэзы). Яна нарадзілася заўчасна і таму мела шмат праблем са здароўем, у тым ліку кровазліццё ў мозг. Яе бацькі маліліся аб цудзе праз заступніцтва бацькоў св. Тэрэзы.*

### wiara.pl

**30 тысяч славакаў у манастырах**

***У межах Года кансэкраванага жыцця манахі і манахіні ў Славакіі арганізавалі дзень адчыненых дзвярэй.***

*Больш за 30 тысяч чалавек наведалі ў мінулую суботу славацкія манастыры. Кансэкраваныя асобы падрыхтавалі для гасцей насычаную праграму. Але аказалася, што славакі не шукалі ў манастырах нейкіх цікавінак. Найбольшай "папулярнасцю" ў гасцей карысталася малітва і магчымасць даручыць манахам і манахіням асабістыя малітоўныя інтэнцыі.*

***Кінга Красіцкая***

## Кс. бп Аляксандр Кашкевіч у санктуарыі Маці Божай у Невігесе

*Падчас сёлетніх урачыстасцей у Невігесе (Германія) асабліва маліліся за ўсіх кансэкраваных асоб, якія прысвяцілі жыццё Богу і Касцёлу.*

У Невігесе беларускі іерарх узначаліў урачыстыя набажэнствы з удзелам шматлікіх пілігрымаў, якія прыбылі ў санктуарый у шасці пешых пілігрымках, а таксама рознымі транспартнымі сродкамі.




Звяртаючыся да пілігрымаў, біскуп заахвоціў, каб кожны з іх пастараўся адказаць сабе на пытанне: "Хто найважнейшы ў маім жыцці?". "Толькі тады, калі чалавек прызнае, што Бог ёсць Панам, што Ён першы і найважнейшы, толькі тады падыход да матэрыяльных рэчаў і розных часовых клопатаў будзе правільным", – дадаў іерарх.

Таксама ў межах свайго візіту ў Германію біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч па запрашэнні святароў з Таварыства Хрыста для палякаў-эмігрантаў узначаліў святую Імшу ў касцёле Маці Божай Успамогі Вернікаў у г. Бруль каля Кёльна, падчас якой удзяліў сакрамант канфірмацыі групе вернікаў.

## Семінарыйны гурт "AVE" прыняў удзел у фестывалі духоўнай музыкі

*У Магілёве семінарысты выканалі свае музычныя творы на Плошчы Зорак у цэнтры горада.*




Выступ гурта "AVE" падчас Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа" цешыўся вялікай папулярнасцю. Галоўнай мэтай семінарыстаў было наблізіць людзей да Бога або, хутчэй, Бога да людзей, паколькі ў гэтай частцы Беларусі малы працэнт католікаў.

Таксама навучэнцы ВДС сталі сведкамі іншых цікавых падзей: Фестывалю звону, выступленняў хароў, канцэртаў хрысціянскіх гуртоў і выканаўцаў.

## Моладзь Беларусі патрабуе "моцы з вышыняў"

*Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі ў парафіі св. апосталаў Пятра і Паўла ў Ражанцы і ў парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве.*

Падчас св. Імшы ў Ражанцы, звяртаючыся да моладзі, біскуп Юзаф падкрэсліў, што "моц з вышыняў", якую ў сакраманце канфірмацыі ўдзяляе Дух Святы, дазваляе быць веруючым католікам, узорным грамадзянінам і сапраўдным чалавекам.



Удзяляючы сакрамант канфірмацыі ў Мсцібаве, біскуп заахвоціў маладых вернікаў да адважнага сведчання Божага слова і папрасіў, каб сярод сваіх аднагодкаў яны былі заўсёды нязломнымі ў веры.

Іерарх сказаў, што ад паводзін моладзі, яе стылю жыцця і размоў залежыць, ці адшукаюць іншыя людзі дарогу да Бога.

## Дзень дзіцяці ў шчучынскай парафіі

*Свята сабрала каля 80 чалавек. За ходам урачыстасцей сачыў адказны за душпастарства дзяцей у парафіі а. Аляксандр Махнач SP.*



Свята па традыцыі пачалося малітвай перад фігурай Найсвяцейшай Панны Марыі. Потым дзяцей чакалі разнастайныя забавы, конкурсы і гульні, падрыхтаваныя старэйшай моладдзю.

## Кс. Юзаф Ганьчыц адзначыў 20-годдзе святарства

*На ўрачыстай св. Імшы ў парафіі Святой Сям'і ў Лідзе сабраліся святары, сёстры назарэтанкі, сёстры школьныя Нотр-Дам, сёстры Беззаганнага Зачацця са Свіры.*

Пасля Эўхарыстыі святары, прадстаўнікі розных парафіяльных груп і асобныя сем'і павіншавалі прабашча. У сваю чаргу дзеці, прадстаўнікі моладзі, міністрантаў і руху "Gloriosa Trinita" пад кіраўніцтвам сясцёр Беззаганнага Зачацця прадставілі песню, якая апавядае аб пакліканні і святарскім жыцці кс. Юзафа Ганьчыца, аб 20 гадах яго служэння Богу і людзям.



## Святкаванні 25-годдзя служэння ў Беларусі шанштацкіх сясцёр

*Урачыстую св. Імшу ў Адамавічах з нагоды юбілею цэлебраваў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.*

Падчас урачыстасцей арцыпастыр прыгадаў гісторыю служэння сясцёр на Гродзеншчыне, а менавіта актыўную працу на ніве катэхізацыі, арганізацыю душпастарства моладзі і сем'яў, арганізацыю дабрачыннай працы, дапамогу пры заснаванні Гродзенскай ВДС, а асабліва семінарыйнай капліцы.

Кажучы пра тое, што сярэбраны юбілей агульнага служэння ў Беларусі сёстры адзначаюць ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса, Мітрапаліт заўважыў: "Па прыкладзе Езуса, вы з любоўю прынялі служэнне любові сярод людзей, якія перажылі духоўны Чарнобыль, каб з гэтай выпаленай сонцам атэізму зямлі ўчыніць аазіс духоўнага жыцця і паказаць людзям, што дарога да Езуса ідзе праз Марыю".

## Дыяцэзіяльны дзень бацькі адзначылі ў Капцёўцы

*Традыцыйна ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы прыйшла пешая пілігрымка з Гродна, у якой прынялі ўдзел бацькі сем'яў, іх жонкі і дзеці, а таксама навучэнцы ВДС у Гродне.*



Пілігрымаў чакала ў Капцёўцы багатая духоўная праграма. На пачатку вернікі сабраліся ў санктуарыі на малітве Вяночкам да Божай Міласэрнасці. Канферэнцыю на тэму навяртання ў сувязі з Годам навяртання, які перажываецца ў каталіцкім Касцёле ў Беларусі, прамовіў кс. Юрый Марціновіч. Пілігрымы прынялі ўдзел таксама ў набажэнстве Крыжовага шляху. А ўрачыстую Імшу на заканчэнне пілігрымкі ўзначаліў кс. Міхал Ластоўскі.

З нагоды Дня бацькі таксама адбылася пешая пілігрымка бацькаў з Ашмян у парафіяльную святыню ў Барунах, дзе маліліся ў інтэнцыі бацькаў дыяцэзіі. У пілігрымцы таксама ўдзельнічалі навучэнцы гродзенскай семінарыі.

## АНОНСЫ

### У семінарыі ў Гродне пройдуць рэкалекцыі распазнання паклікання

**З 23 па 26 ліпеня семінарыя запрашае міністрантаў і хлопцаў ад 14 гадоў на перажыванне хвілін цішыні, а таксама на цікавае разважанне над сваім жыццёвым шляхам. Удзельнікі будуць мець магчымасць запытаць сябе ў сэрцы: "Дла чаго мяне кліча Бог?", а таксама адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з навучэнцамі і духоўнымі айцамі і ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы.**

Адказны за рэкалекцыі – **кс. Валерый Быкоўскі.**
Кантактныя нумары: **(+37529) 695-24-69, (+37529) 695-24-69,**
тэл. семінарыі **(8-0152) 77-02-34, (8-0152) 77-02-34.**




### Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя запрашае на вучобу

**Для паступлення ў ВДС на 2015/2016 навучальны год неабходна з'явіцца ў семінарыю 27 ліпеня. Уступны экзамен пачынаецца ў 10.00. Падчас уступнага экзамену кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах з катэхізіса і актуальнага жыцця каталіцкага Касцёла.**

Працэс падрыхтоўкі да святарства ў гродзенскай семінарыі працягваецца 7 гадоў. Акрамя інтэлектуальнай падрыхтоўкі і духоўнага фарміравання, прадугледжана літургічная практыка на парафіях.

***Прыём дакументаў адбываецца ў рэктараце семінарыі кожны дзень акрамя нядзель і ўрачыстасцей па папярэднім запісе.***

Адрас: **Беларусь, Гродна 230025, вул. Парыжскай Камуны, 1,**
**Вышэйшая духоўная семінарыя.**
E-mail: **wsd@grodnensis.by.**
Тэлефон: **(8-0152) 77-02-34.**

**Кандыдаты ў семінарыю павінны прадставіць наступныя дакументы:**

- **уласнаручна напісаная заява аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння**
- **аўтабіяграфія** *(уласнаручна напісаная)*
- **атэстат аб сярэдняй адукацыі або дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы**
- **пасведчанне аб сакраманце хросту**
- **пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі**
- **пасведчанне аб удзеле ў катэхезе**
- **характарыстыка ад пробашча**
- **медыцынская даведка для паступлення ў ВНУ**
- **пашпарт і яго ксеракопія** *(старонкі 31-33)*
- **ваенны білет** *(прыпіснoе пасведчанне)* **і яго ксеракопія**
- **4 фотаздымкі** *(3х4 см).*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Спосабы Вашай зацікаўленасці справамі сваёй парафіі***




*Рэдактары нашай газеты прапанавалі вельмі цікавае апытанне. Рэспандэнты выказваліся на тэму таго, якім чынам яны цікавяцца справамі парафіі. Часцей за ўсё зацікаўленне заканчваецца толькі ахвяраваннем у скарбонку ці на рамонт святыні. Існуе таксама дастатковая колькасць людзей, якія ўносяць свой уклад у развіццё парафіяльнай супольнасці, працуючы асабіста пры парафіі. Некаторыя робяць гэта праз акцыі міласэрнасці.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



*Кс. Павел Салабуда*

*У дадзеным апытанні была закранута вельмі важная праблема. Касцёл, парафіяльная супольнасць – гэта не толькі ксёндз пробашч, вікарый ці манаскія сёстры. Да жывога Касцёла належыць кожны з нас. У нашай дыяцэзіі існуюць розныя парафіяльныя супольнасці. Некаторыя – што сапраўды цешыць – вельмі жывыя, актыўныя, але, на жаль, ёсць і такія, дзе ўзгаданай актыўнасці вельмі мала. Кожны парафіянін можа рознымі спосабамі цікавіцца і далучаца да жыцця парафіі. Не толькі праз складанне ахвяраванняў падчас св. Імшы ці розных складак, хоць без грошай нічога сёння не зрбіш, і гэта таксама важна. Найважнейшай з'яўляецца, у першую чаргу, адкрытасць і жаданне служыць Касцёлу і парафіі. Заахвочваю ўсіх да актыўнага жыцця ў сваіх парафіях.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

13 ліпеня 1942 г. – **а. Дыянізій Клімчак OFMConv.,** *проб. Гродна;*
15 ліпеня 1943 г. – **кс. Казімір Шыпіла,** *вік. Гродна-Фара;*
**кс. Юстын Скакоўскі,** *капелан сясцёр назарэтанак, Гродна;*
**кс. д-р Юзаф Казлоўскі,** *проб. Ваўкавыск-Фара;*
**кс. кан. Марэк Бурак,** *проб. Мсцібава;*
16 ліпеня 1973 г. – **кс. Адам Вайцехоўскі,** *проб. Гудагай;*
23 ліпеня 1955 г. – **кс. Юзаф Кавальчук,** *проб. Індура;*
24 ліпеня 1963 г. – **кс. Францішак Пятровіч,** *проб. Нястанішкі;*
26 ліпеня 1993 г. – **кс. Станіслаў Шока SDB,** *душп. Ліда.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*
*Рада вітаць усіх чытачоў рубрыкі "На скрыжаванні"!*
*Сёння мы з Вамі паразважаем пра цяжар адказнасці, пра тое, як трэба працаваць, каб павысіць яе ўзровень, а таксама пра неабходнасць своечасовай "рэвізіі" ў галаве.*
*Што ж, наперад з Богам!*


Ангеліна Пакачайла

# Навучыцца адказваць за сябе

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:**
**"Так кожны з нас адкажа за сябе перад Богам" (Рым 14, 12)**

Кожны робіць свой выбар у жыцці і павінен сам адказваць за яго наступствы. Як правіла, гэта даводзіцца рабіць тройчы: перад сабой, людзьмі і Богам. На аснове таго, наколькі адказна чалавек ставіўся да свайго жыцця, будзе вырашана пытанне аб яго вечным існаванні.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:**
**каб палітычная адказнасць на ўсіх узроўнях практыкавалася як узвышаная форма міласэрнасці**

Сёння цяжка ўявіць побач паняцці палітыкі і міласэрнасці. Першае звязана з дзейнасцю на вышэйшых узроўнях, з уладай пэўных асоб. Другое ўвасабляе справядлівасць, бескарыслівасць, добраахвотнасць. Але менавіта для аб'яднання людзей нашы продкі стварылі палітычную сістэму. Молімся, каб кіраўнікі будавалі свае стратэгіі, зыходзячы з высокіх памкненняў і ідэалаў.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА:**
**адказнасць**

Адказнасць – гэта пропуск у дарослае жыццё, білет на вялікія справы і магчымасці. Калі чалавек здольны браць на сябе адказнасць за свае словы і ўчынкі, то ён мае высокую самапавагу і лепшыя жыццёвыя перспектывы. Такому чалавеку давяраюць, на яго спадзяюцца.

Але адказнасць – гэта адначасова цяжар. Каб яго несці, патрэбны сілы, гатоўнасць і ўменне. Паразважаем, наколькі ў кожнага з нас развіта адказнасць і як трэба працаваць, каб павысіць яе ўзровень.

**МЭТА МЕСЯЦА:**
**навучыцца адказваць за сябе**

Часта людзі спрабуюць думаць за іншых – пляткараць, "малююць" чужыя карціны жыцця, але не могуць элементарна адказаць за сябе: навошта робяць нейкія рэчы, чаму паступаюць так, а не інакш.

Непрыгожа, калі некаторыя імкнуцца "скінуць" цяжар сваёй адказнасці на іншых. Гэта выглядае так, нібы "мяне папрасілі", "гэтак вучылі" або "не навучылі". Але, як заўважыў вядомы філосаф і пісьменнік Оскар Уайльд, ніхто не можа перакласці сваю адказнасць на іншых: рана ці позна яна вяртаецца да таго, хто абавязаны яе несці.

**СПРАВА МЕСЯЦА:**
**адказаць сабе на пытанні, што выплываюць знутры**

Часам кожнаму з нас даводзілася шукаць адказы на пытанні кшталту "Што я тут раблю?", "Навошта я так паступіў?", "Дзе маё месца ў свеце?". Калі запыт не задавальняецца, чалавек ходзіць пануры альбо раўнадушны да ўсяго таго, што адбываецца. Таму варта своечасова праводзіць у сваёй галаве гэтак званую "рэвізію". Гэта надае ўпэўненасці і дапамагае прагназаваць наступствы новых сітуацый.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Зазірні ў сябе", Яткоўскі Вадзім**

Ты зазірні ў сябе, паглядзі ў свой свет, скрозь эфір, праносіцца час твайго жыцця..." – двойчы паўтарае ў прыпеве выканаўца. Ён заклікае слухачоў задумацца над сэнсам свайго існавання: "У чым жывуць тваё ідэі, як праводзіш ты тыдні?". А напрыканцы – упэўненае "Хутчэй зрабі крок да новага жыцця!".

**КНІГА МЕСЯЦА:**
**"Абранне жыццёвага шляху", а. Альберта Хуртада Кручага**




Гэтая кніга для тых, хто любіць Бога, натхняецца Хрыстом, для тых, хто шчыра любіць блізкіх і поўны рашучасці зрабіць іх жыццё больш карысным, радасным, як і сваё ўласнае. Аўтар кнігі – святы езуіт, адзін з самых значных дзеячаў каталіцкага Касцёла ў Чылі айцец Альберта Хуртада Кручага.

**АСОБА МЕСЯЦА:**
**святая Вераніка Джуліяні**

Нарадзілася Вераніка ў Меркатэла-суль-Метаура ў Італіі 27 снежня 1660 года. Паходзіць з беднай сям'і. Была малодшай з сямі дачок. Ва ўзросце 17 гадоў паступіла ў манастыр сясцёр капуцынак святой Клары ў горадзе Чыта-ды-Кастэла. Прайшла ўсе ступені манастырскай іерархіі ад кухаркі і выхавацельніцы паслушніц да ігумені. Чулліва апекавалася хворымі і старэйшымі сёстрамі.

Бог узнагародзіў яе дарам экстаза і звышнатуральных бачанняў. У 1697 годзе ў Вялікую пятніцу сястра Вераніка атрымала стыгматы. На працягу доўгіх гадоў ахвяравала свае цярпенні ў інтэнцыі навяртання грэшнікаў. Памерла 9 ліпеня 1727 года. Беатыфікавана папам Піем VII у 1802 годзе, кананізавана папам Рыгорам XVI у 1839 годзе.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў ліпені?**
*Св. Тамаш (3 ліпеня), св. Ізабэла (4 ліпеня), св. Тэрэза (6 ліпеня), св. Вераніка (9 ліпеня), св. Вольга (11 ліпеня), св. Андрэй (13 ліпеня), св. Часлаў (20 ліпеня), св. Віктар (21 ліпеня), св. Наталля (27 ліпеня), св. Пётр (30 ліпеня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі*
pokachailo.lina@gmail.com.




RV
Radio Vaticana

***Суеверие – это тяжкий грех или простительный?***

**Святой Фома Аквинский писал, что суеверие – это порок, который может заключаться в поклонении тому, кому не должно поклоняться, или же в недопустимом способе поклонения Богу.**

*Поклоняться «тому, кому не должно», означает культ дьявола, и речь идет о смертном грехе. К этой разновидности греха относится, например, гадание, то есть попытка предсказать будущее или узнать сокровенное недопустимыми методами, противоречащими воле Бога и запрещенными Им. Тяжким грехом является также идолопоклонничество, которое приписывает различные события наличию или отсутствию определенных предметов. Но тут нужно сделать уточнение, ведь мы знаем, что тяжесть греха определяется не только материей, но и согласием воли и осознанием совершаемого поступка.*

*Если, например, мы совершаем какой-то суеверный жест по легкомыслию и без полного осознания, то речь идет о простительном грехе, не лишающем благодати. Но если мы по-настоящему, всерьез верим, что течение событий зависит от того, куда мы повесим картину, или от талисмана, то речь идет о культе иных богов – ведь мы не подчиняемся Ему, а предоставляем нашу жизнь идолам. Согласно святому Павлу, это то же самое, что и служение демонам: «Что же я говорю? То ли, что идол есть что-нибудь, или идоложертвенное значит что-нибудь? Нет, но что язычники, приносят жертвы, приносят бесам, а не Богу. Но я не хочу, чтобы вы были в общении с бесами» (1 Кор 10, 19–20).*

***Радио Ватикана***




# Богу варта аддаваць усё



***Сёння сваю гісторыю апавядае сястра Агнешка з Кангрэгацыі Школьных Сясцёр Нотр-Дам.***

**Любімая бабуля была "трэцяй з бацькоў"**

Сястра Агнешка нарадзілася ў Лідзе. Тата працаваў вадзіцелем, мама – медсястрой. Сям'я вызнавала каталіцкую веру.

У бацькоў былі сын і дачка. Яны баяліся хрысціць іх у сваёй парафіі (належалі тады да лідскай Фары), таму дзяўчына была ахрышчана ў Літве ў Дзевяніішках ва Ўспамін Маці Божай Дапаможніцы Вернікаў 24 мая. Атрымала імя Марыя.

*"Бацькі былі абсалютна рэлігійна абыякавымі, таму веру мне перадала мая любімая бабуля. Яна была для мяне, як я заўсёды казала, «трэцяй з бацькоў»", – успамінае сястра Агнешка.*

Сын нарадзіўся яшчэ ў дастатковa складаны для веры час, таму бацька не дазволіў, каб бабуля вучыла яго малітвам. Аднак ужо не супярэчыў, калі пачала вучыць дачку. Бабуля старалася ўжо з самага маленства браць дзяўчынку з сабой у касцёл у нядзелю. Хутка яна ўжо ведала асноўныя малітвы.

**Хадзіла ў касцёл з любові да бабулі**

Калі дзяўчынка падрастала, яе ахвота да веры згасала, паколькі яна не бачыла прыкладу бацькоў. Яна цікавілася рознымі гурткамі, спортам, музыкай. Яна ўсімі магчымымі спосабамі спрабавала "адкруціцца" ад касцёла і далейшага вывучэння малітваў.

*"Але з перспектывы часу я бачу, што Бог мае сваю непаўторную дарогу да сэрца кожнага чалавека, што Ён нястомна выходзіць насустрач кожнаму з нас. А таму і да майго сэрца Ён таксама дабіраецца незвычайным, але адначасова такім простым спосабам".*

Дзяўчыну ўжо не цікавіла вера бабулі: яна "верыла" толькі з-за таго, што бабулі будзе крыўдна, калі ўнучка не будзе хадзіць у касцёл. Выключна з любові да бабулі дзяўчына ішла ў нядзелю на св. Імшу – часам нават толькі на некалькі хвілін, – каб пазней расказаць, што там было, каб даказаць, што хадзіла ў касцёл. Другой прычынай было тое, што сям'я атрымала новую кватэру ў доме, які стаяў фактычна "на падворку" касцёла на Слабадзе.

*"І такім чынам Пан Бог нібы сам наблізіўся да мяне і маёй сям'і".*

**Божы дотык**

З дапамогай бабулі дзяўчына ва ў 11 гадоў прыступіла да Першай св. Камуніі.

*"Я памятаю, што вельмі хацела прыняць Пана Езуса, бо адчувала нешта незвычайнае ўнутры (я нават не магу гэтага апісаць). Таксама цешылася, што мая бабуля была вельмі шчаслівай. Мне больш нічога не было патрэбна. Адсутнасць бацькоў я прыняла як штосьці нармальнае".*

Гэта і быў першы Божы дотык. Наступны адбыўся праз некалькі гадоў, калі зноў пад "прымусам" бабулі дзяўчына пачала хадзіць на ружанцовую малітву ў кастрычніку. Святар прыязджаў у парафію толькі ў нядзелю, таму некалькі бабуль штодзённа збіралiся ў касцёле на малітве. І тады дзяўчына адчула другі дотык.

*"Прымус раптоўна ператварыўся ў маё асабістае жаданне быць з Богам. З таго часу ружанцовая малітва стала чымсьці абавязковым у маім штодзённым жыцці".*

**Была на сёмым небе, калі дапамагала сястры**

Праз некаторы час у Ліду прыехалі ксяндзы салезіяне, пазней – сёстры Нотр-Дам. І распачалося вельмі жывое і дастаткова цікавае парафіяльнае жыццё. Тады дзяўчына пачала хадзіць у касцёл штодзённа па асабістай неабходнасці. З моманту прыезду сясцёр яна захаплялася імі, але не ведала, як наладзіць з імі больш блізкі кантакт. Таму малілася, каб сёстры самі першыя выйшлі да яе. Так і адбылося.

*"Калі пасля адной з Імшаў арганістка сястра Юдыта падышла да мяне і папрасіла пераключаць слайды падчас набажэнстваў, я была на сёмым небе".*

Але пазней, калі дзяўчына падумала пра тое, каб стаць адной з сясцёр, яна адразу "апраўдалася" перад Богам, што любіць сясцёр, але не падыходзіць для манастыра, бо вельмі любіць свабоду і незалежнасць. Яна заўсёды старалася падаўляць гэтую думку, ставячы розныя ўмовы Пану Богу.

**Рызыкнула адказаць Пану "так"**

*"Але я адчула наступны дотык Пана. Гэта адбылося, калі да нас пачала прыязджаць моладзь з Польшчы з руху «Святло-Жыццё». Калі я ўдзельнічала ў розных сустрэчах, мая вера нібы перараджалася з традыцыйнай у сапраўдную і глыбокую. Падчас рэкалекцый я зламала свае ўмовы і рызыкнула адказаць Пану «так». Я адчула незвычайны супакой у сэрцы і радасць".*

Пасля вяртання з рэкалекцый у дзяўчыны ўжо былі падрыхтаваны ўсе дакументы ва ўніверсітэт. Але яна падумала, што калі цяпер згубіць кантакт з сёстрамі, то гэтае нованароджанае "так" таксама хутка можа згубіць. Таму вырашыла, што пойдзе на год у эканамічны каледж у Лідзе. Калі расказала пра гэта бацькам, яны былі ў шоку.

*"Але нягледзячы на канфлікт, я адчувала сябе вельмі спакойна".*

**Укладае ў працу ўсю сябе**

На працягу двух гадоў у душы дзяўчыны наспявала рашэнне, і ўрэшце яна пайшла ў кандыдатуру да сясцёр Нотр-Дам. Цяжка было пакінуць бацькоўскі дом, любімую бабулю. Але аблягчэнне прынеслі словы мамы, што ў кожную хвіліну яна можа вярнуцца дадому. Тата нічога не сказаў, толькі адвярнуўся са слязамі і пайшоў.

Так пачалося жыццё сястры Агнешкі з Панам у манастыры і плённая праца ўжо 21 год. Сястра вельмі моцна малілася за сваю сям'ю. З дапамогай Божай ласкі бацькі паядналіся з Ім, нягледзячы на столькі гадоў няверя. Брат, маючы 45 гадоў, цудоўным чынам упершыню прыступіў да сакрамантаў споведзі і св. Камуніі.

На працягу доўгага часу сястра Агнешка працавала катэхеткай, пасля – арганісткай.

*"Я люблю сваю працу і стараюся ўкладваць у яе ўсё, што Бог уклаў у мяне. Я кожны дзень бачу, што Ён увесь час шукае шляхі да майго сэрца, каб усё больш рабіць яго падобным на сваё. Богу варта аддаваць усё, хоць часта цяжка і баліць. Але гэта пацвярджае сапраўднасць і плённасць дарогі кожнага з нас, так, як сказала наша заснавальніца Марыя Тэрэза Гергардзінгер: «Усе Божыя справы здзяйсняюцца павольна і ў болі; але пазней яны яшчэ больш трывалыя і прыносяць яшчэ больш цудоўны плён»".*

***Ангеліна Пакачайла***

ЗРАБІ САМ

# Як зрабіць ландышы

*Дарагі наш Маленькі Сябар! Нягледзячы на тое, што май, які лічыцца марыйным месяцам, ужо даўно мінуў, мноства вернікаў, як у нашай дыяцэзіі, так і ва ўсім свеце, накіроўваюцца ў марыйныя санктуарыі, каб скласці да стоп Маці Божай свае просьбы, выказаць удзячнасць за атрыманыя ласкі, апеку і заступніцтва, праславіць Яе. Ты таксама можаш у кожную хвіліну звярнуцца да Марыі. Будзь упэўнены, што Яна абавязкова выслухае Цябе. Вядома, лепшым знакам удзячнасці Маці Божай будзе Твая шчырая любоў і малітва, але ёсць яшчэ штосьці, што Ты можаш Ёй ахвяраваць – кветкі, якія аздобяць Яе фігурку ці абраз. Павер, Ёй спадабаецца.*

*Прапануем Табе зрабіць папяровы букецік з кветак, якія ў многіх атаясамліваюцца з вобразам Марыі: далікатных, простых і адначасова такіх вытанчаных – ландышаў.*

**Рэдакцыя**

Для выканання патрэбны:
- сцяблінкі – *4 зялёныя папяровыя палоскі 29 х 1 см,*
- кветкі – *18 белых палосак 29 х 1 см,*
- сярэдзінкі кветак – *10 жоўтых палосак 10 х 1 см,*
- лісце – *цёмназялёныя кардонкі 19 х 1 см.*

1



3 белых палосак скручваем свабодныя рулончыкі *(можна аблегчыць сабе працу, накручваючы палоскі паперы на зубачыстку).*

2



Рулончыкі сціскаем з двух бакоў, надаючы ім форму паўмесяцаў.

3



Жоўтыя палоскі скручваем у шчыльныя рулончыкі, а затым прыклейваем іх да белых кветак *(не ўсе яны будуць мець сярэдзінкі).*

4



Зялёныя палоскі на адным канцы скручваем у рулончык.

5



Белыя кветачкі прыклейваем да сцяблінак. Зверху павінны быць кветкі без жоўтых сярэдзін *(яшчэ не распусціўшыяся).*

6



Робім 4 сцяблінкі з кветкамі.

7

З цёмназялёнага кардону выразаем два лісткі і згінаем іх уздоўж на палову.

8



На лістках размяшчаем сцяблінкі з кветкамі і робім букецік.

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Яшэўскаму з нагоды атрымання біскупскай сакры складаем самыя шчырыя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою на кожны дзень, радасці і аптымізму, нястомнасці ў пастарскай працы, а таксама добрых людзей навокал. Няхай міласэрны Бог Вас благаслаўляе!

*Парафіяне і салезіянская супольнасць са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму з нагоды Імянін жадаем здароўя, радасці, поспехаў у нялёгкай святарскай паслузе, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай. Няхай Ваш шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач няхай будуць зычлівыя людзі.

*Вернікі з пар. у Шылавічах*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Чургану з нагоды 40-годдзя перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень. Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна спаўняць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Юрацішкаў*

Паважаным Ксяндзам Яну Рама초ўскаму, Паўлу Раманоўскаму і Паўлу Беланосу з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя і стойкасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дададуць Вам сіл і цярплівасці, а Дух Святы няхай суправаджае Вас па Божых сцежках. Няхай усмешка заўсёды госціць на Вашых тварах, а побач будуць добразычлівыя людзі.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і вернікі радунскай парафіі*

Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу з нагоды Імянін ад усяго сэрца складаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, здароўя, радасці, разважлівасці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Няхай св. Заступнік нястомна чувае над Вамі, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*З малітвай парафіяне з в. Дубаўцы і Плябанаўцы*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў шчырай і адданай паслузе Богу і людзям, мноства радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця, апекі Маці Божай і св. Заступніка, а таксама ўсіх дароў Святога Духа.

*Заўсёды ўдзячныя парафіянкі з гродзенскай катэдры*

Паважанаму Ксяндзу Яну Кучынскаму з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, радасці, аптымізму, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Няхай заступніца нашай святыні – Маці Божая Кангрэгацкая – апекуецца Вамі, а св. Ян дапамагае перадольваць кожную цяжкасць і вядзе да святасці. Дзякуем Вам за вялікае любячае сэрца!

*“Маргарытка” і малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ян Хрысціцель адорвае Вас моцным здароўем, агонь Святога Духа, які гарыць у Вашым сэрцы, ніколі не гасне, а радасць нясення Хрыста людзям напаўняе Вашае сэрца.

*Са шчырай малітвай Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

Паважанай Сястры Марыі Стасевіч з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя на доўгія гады, цярплівасці і радасці. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе Вас у складанай і адказнай паслузе, а Маці Божая няхай нястомна Вамі апекуецца.

*Са шчырай малітвай Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, моцнага здароўя, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна з’ядноўваюць Вас з Богам, каб Вы ніколі ад Яго не аддаліліся, а наша гарачая і сардэчная малітва няхай будзе для Вас падтрымкай. Складаем словы ўдзячнасці таксама за рамонт і кветкі каля касцёла, за адданую працу, душпастарскі візіт у нашыя дамы, а таксама за супольную малітву.

*Парафіяне з Жалудка*

Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Ніколі ў жыцці не спазнайце смутку, жывіце ў радасці, шчасці і здароўі. Няхай Бог дазволіць Вам 100 гадоў крочыць па святарскім шляху.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Анатолю Захарэўскаму з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі на кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці і св. Заступнік нястомна Вамі апекуюцца.

*Парафіяне з касц. у Жукойнях Жалядскіх*

Шаноўнаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіміру Гуляю з нагоды юбілею жадаем моцнага здароўя, супакою ў душы, шмат сіл і энергіі, радасных і спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе Вас, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а Дух Святы асвятляе кожны дзень святарскай паслугі. Мы дзякуем Вам за ахвярную працу, шчырыя словы, мудрыя казанні і добрыя справы.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Ліды-Фары*

Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаю ўсіх Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, душэўнага супакою, поспехаў у душпастарскай працы, сіл і стойкасці на кожны дзень. Няхай св. Заступнік заўсёды Вамі апекуецца, а Дух Святы адорвае сваімі шчодрымі дарамі.

*Здзіслаў са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Няхай Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай заўсёды будзе Вашым сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.

*З малітвай вернікі з в. Малінавая*

Выказваем сардэчную падзяку старшыні СВК “Кракоўка” Генадзію Феліксавічу Дэнюшу, праўленню і працоўнаму калектыву гэтай гаспадаркі за тое, што ахвяравалі для нашай парафіі памяшканне на станцыі Ашмяны. Мы вельмі ўдзячны таксама былому старшыні гэтай гаспадаркі Эдуарду Баляслававічу Люткоўскаму, дзякуючы якому мы маглі бясплатна арандаваць гэтае памяшканне для малітвы. Складаем нізкі паклон і сардэчную падзяку ўсім службам і добрым людзям, вядомым Пану Богу, якія дапамагаюць нам у справе пераафармлення гэтага памяшкання ў капліцу, каб мы мелі магчымасць праводзіць там усе набажэнствы. У нашых малітвах просім Найсвяцейшую Панну Марыю і ўсіх святых аб заступніцтве, трывалым здароўі, патрэбных Божых ласках і Божым благаслаўленні для ўсіх Вас і Вашых сем’яў.

*З малітвай і ўдзячнасцю вернікі з касц. Апекі НПМ*

Паважаны Ксёндз Юрый Барташэвіч! Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам усяго самага лепшага. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае Вас сваімі ласкамі, Маці Божая ахінае сваёй мацярынскай апекай і любоўю, Дух Святы спасылае свае шчодрыя дары, а Ваш св. Заступнік напаўняе супакоем і радасцю. Жадаем таксама моцнага здароўя, непахіснай надзеі, нязгаснай веры і нястомнасці ў душпастарскай працы. Няхай Вашае жыццё будзе напоўнена толькі прыемнымі момантамі, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі. Дзякуем за працу ў нашай парафіі, за абвяшчэнне Божага слова, за добрае сэрца і прыемную ўсмешку.

*Парафіяне з касц. Адшукання Святога Крыжа ў аг. Жырмуны*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, заступніцтва св. апостала Паўла, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, і людской дабрыні. Мы шчаслівыя, што Вы з намі, і ўдзячныя Вам за працу ў нашай парафіі, цярплівасць да нас, за прыгожыя, мудрыя і павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і добрае чулае сэрца, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай вернікі з пар. св. Юрыя ў Варнянах*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх ласкаў ад усемагутнага Бога, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а св. Заступнік заўсёды чувае над Вамі.

*Сям’я Кагарка і іх дзеці, в. Навасёлкі*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Лазоўскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці ў святарскай паслузе і толькі добразычлівых людзей побач. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, а Маці Божая апекуецца і дадае запалу да працы.

*Сям’я Бурневіч, Шыдлоўскіх і Аскерка з Невяровічаў*

Паважаны Ксёндз Пробашч Вітольд Чурган! Сардэчна віншуем Вас с Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у цяжкай, нястомнай працы і штодзённай апекі Маці Божай. Няхай на Вашым шляху заўсёды сустракаюцца добрыя і сумленныя людзі.

*З найлепшымі пажаданнямі ўдзячныя парафіяне са ст. Юрацішкі*

Паважаным Ксяндзам Яну Пузыну, Яну Кузюку і Паўлу Барысевічу з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага: моцнага здароўя, добрых людзей на душпастарскім шляху, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступнікаў. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях.

*Са шчырай малітвай Ядзвіга і Зыгмунт Кетрыс з Ашмянаў*

Паважанаму Ксяндзу Людвіку Станішэўскаму з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог благаслаўляе Ваш святарскі шлях, Маці Божая штодзённа апекуецца, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, поспехаў у нястомнай працы, а таксама цярплівасці і моцы, каб весці людзей да Бога.

*Вернікі з касц. св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

Ад усяго сэрца прагнем падзякаваць за малітву і дапамогу ў арганізацыі пахавання дарагога нашым сэрцам кс. Яна Занеўскага. Дзякуем ксяндзам біскупам, святарам, манаскім сёстрам, клерыкам, парафіянам, а таксама кожнаму, хто ўдзельнічаў у пахаванні. Асаблівыя словы ўдзячнасці выказваем старшыні калгасаў “Квасоўка” і “Свіслач” за дапамогу ў арганізацыі пахавання. Няхай добры Бог аддзячыць кожнаму з Вас.

*Блізкія і родныя с.п. кс. Яна Занеўскага*

Паважаны Айцец Юрый Саковіч! Парафіяне з Карэліч і Варончы падтрымліваюць Вас малітвай у хвіліну смутку і болю, а таксама просяць Бога прыняць у сваё Валадарства Вашу любімую маму Уладзіславу.

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3991; тыраж 6600; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная